**У НУМАРЫ**


- Роля БГКТ
- Ранены з-пад Леніна
- Правілы агляду «Беларуская песня — 72»
- Бібліятэчка «Нівы»
- Разам
- Круглы год лета


# Ніва


БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 41 (815) ГОД XVI БЕЛАСТОК 10 КАСТРЫЧНІКА 1971 г. ЦАНА 60 гр.




Беларускі фэстын. Фота Цаф — Савіцкі

## БГКТ хроніка

■ 22-га верасня сакратар Галоўнага праўлення БГКТ Янка Зенюк у Бельску Падляшскім правёў сустрэчы з першым сакратаром павятовага камітэта ПАРП Юзэфам Пяхоўскім, з якім былі абмеркаваны наступныя пытанні: а) актывізацыя БГКТ на Бельшчыне, б) справаздачна-выбарная кампанія Беларускага таварыства і справы, з ёю звязаныя.

■ У Райску (Бельскі павет) настаўніцы васьмікласнай школы (кіраўнік школы Софія Шэнгольц) ужо некалькі год арганізавалі і вялі гурток любіцеляў беларускай мовы. Як праінфармавала нас нядаўна настаўніца беларускай мовы Валянціна Мамотка, на заняткі прыходзіла больш 20-ці асоб. З удзельнікаў заняткаў былі утвораны мастацкі калектыў. У гэтым навучальным годзе таксама ідуць намаганні настаўніц, а перш за ўсё Валянціны Мамотка, каб зноў арганізаваць такі гурток. Хацелася б, каб з настаўніц у Райску ўзялі прыклад іншыя школы.

■ Члены прэзідыума сямяціцкага аддзела БГКТ пастанавілі ў школах, дзе навучаецца беларуская мова, правесці сходы з бацькамі аб ролі і значэнні вывучэння іх дзецьмі роднай мовы.

■ Нядаўна адбыўся сход гуртка БГКТ у Гаркавічах у Сакольскім павеце (старшыня гуртка Іван Аўгустынчык). Удзельнікі сходу выступілі, між іншым, з прапановаю, каб у іх вёсцы пабудаваць новую школу і назваць яе імем Сяргея Прытыцкага, які тут нарадзіўся, жыў і вёў рэвалюцыйную дзейнасць у гады санацыйнай улады. На сходзе прысутнічала таксама інструктар Галоўнага праўлення БГКТ Ірэна Аношка.

■ Члены гурткоў БГКТ у Сухінічах (Сакольскі павет), Сынкоўцах і Хільмонах (Дуброўскі павет) звярнуліся з просьбай да інструктара ГП Ірэны Аношка, каб у іх вёскі часцей прыязджала кінаперасоўка ГП з савецкімі фільмамі, каб часцей наведвала эстрада ГП «Лявоніха» і журналісты «Нівы».

■ Прэзідыум сакольскага аддзела БГКТ рыхтуецца да пленарнага пасяджэння, якое адбудзецца 8 кастрычніка і будзе прысвечана справаздачна-выбарнай кампаніі ў гуртках.

(мх)

ВЫХОДЗЯЧЫ З ДЫРЭКТЫЎ ПАРТЫІ

# РОЛЯ БГКТ

РАЗМОВА З САКРАТАРОМ ГП БГКТ ЯНКАМ ЗЕНЮКОМ.

*— Дырэктывы партыі вызначаюць вялікую і працавітую ролю масавых арганізацый.*

— Наша праграма звязана з праграмай партыі. Дырэктывы акрэсліваюць і наша месца, і нашу ролю. Роля нашага таварыства ў рэалізацыі грамадска-культурных і эканамічных задач узрастае. Эканамічныя справы мы не заўсёды дагэтуль бачылі ў працы, а не можам жа адрываць культуру ад эканомікі. Калі гаспадар, скажам, лепш працуе, то і багацейшы, і хутчэй купіць тэлевізар, і паедзе на экскурсію.

*— Новая палітыка партыі і дырэктывы падкрэсліваюць значэнне добрай работы, як merніка вартасці чалавека і арганізацыі. Добрая праца — гэта маральны абавязак грамадзяніна.*

— І патрыёта. Крытэрыі добрай работы ўзняло ўжо Галоўнае праўленне БГКТ на сваім апошнім пасяджэнні і абавязак такі налажыла на сваіх членаў. На сходах гурткоў трэба разглядаць дырэктывы, чытаць іх, дыскутаваць над імі і ўносіць свае прапановы. Кожны член БГКТ знойдзе сваё заданне ў гэтай багатай праграме — гаспадар, каб павысіць ураджаі, вучань — каб лепш вучыцца.

У дырэктывах многа гаворыцца аб захаванні натуральнага асяроддзя чалавека. Гэтакім асяроддзем з'яўляецца для нас наша духоўная і матэрыяльная культура, нацыянальная: багаты фальклор, помнікі жыцця і быту людзей. Нашы гурткі ўключаем у збіранне і запісванне песень, казак, прымавак, збіранне экспанатаў матэрыяльнай культуры для нашага музея.

*— Гаворыцца ў дырэктывах, што грамадская арганізацыя тыпу нашага таварыства служыць патрэбам грамадзян таксама ў галіне асветнай і выхаваўчай.*

— Важнай справай для нас з'яўляецца навучанне беларускай мовы ў школах. Выступілі тут справы нявырашаныя, занядбаныя. І) кадры — ніхто не рыхтуе цяпер настаўнікаў для навучання беларускай мовы, 2) дапаможнікі і

Працяг на стар. 4

# РАНЕНЫ З-ПАД ЛЕНІНА



У канцы красавіка 1945 года Міхасю Капцеўскаму з вёскі Дуброўкі, што непадалёк ад Васількова, быў даручаны ліст з наступным зместам: «За пасрэдніцтвам Беластоцкай вайсковай каманды папаўнення паведамляем, што Ваш сын, старшы стралок Сцяпан Капцеўскі загінуў без весці 12 кастрычніка 1943 года на фронце пры вёсцы Трыгубова ў раёне Леніна, Магілёўскай вобласці». А ніжэй неразборчывы подпіс павятовага старасты. Хто ён, Сцяпан Капцеўскі? Якімі шляхамі беларус з Дубровак папаў у Польскае Войска, якое 12 кастрычніка мела баявое хрышчэнне ў смяртэльным бai з нямецкімі захопнікамі?

А было гэта так. Сцяпан Капцеўскі з 1919 года нараджэння жыў у Дуброўках разам са сваімі бацькамі і братамі, араў там зямлю, а таксама іншымі зарабковымі работамі займаўся. У 1941 годзе ў маі быў узяты ў Чырвоную Армію. Яшчэ вельмі мала пазнаёміўся з ваеннай справай, як распачалася вайна.

Сцяпан Капцеўскі прыдзелены быў да эвакуацыі са сталіцы СССР цэнтральных вайсковых магазінаў. Грузілі яны ўсё з магазінаў на біржу і па Маскве-рацы вывозілі ў глыб Расіі. Пасля і сам выехаў у Казань, пазней у Свярдлоўск, а яшчэ пазней у Новасібірск. І так аж да мая 1943 года працаваў ён у рабочых брыгадах.

У пачатку 1943 года па ініцыятыве польскіх камуністаў, прабываючых у Савецкім Саюзе, быў утвораны Саюз польскіх патрыётаў на чале з Вандай Васілеўскай. Саюз гэты пастанавіў утварыць Польскае Войска. Прабываючыя на тэрыторыі СССР польскія вайсковыя фармацыі ў 1942 годзе генерал Андэрс вывёў з СССР. І таму ў пачатку мая, па прапанове Саюза польскіх патрыётаў, Савет народных камісараў СССР прыняў пастанову, дазваляючую арганізаваць І-ую польскую пяхотную дывізію імя Тадэуша Касцюшкі. Вельмі хутка яна арганізавалася. Сцяпан Капцеўскі апынуўся таксама ў яе радах. Прыехала тады ў Сельцы 70 вагонаў першых польскіх салдат. І там над ракой Акой, падобнай да Віслы, раскінулі яны свае палаткі і праходзілі ваенную падрыхтоўку. Атрымалі праз нейкі час новенькія польскія мундзіры і савецкую зброю.

Працяг на стар. 4)

# Падзеі ◊ Здарэнні ◊ Факты ◊ Каментарыі ◊ Весткі

 СВЕТ  БССР  ПОЛЬШЧА  ВАЯВОДСТВА

## СВЕТ

### ЦІКАВАЕ ВЫСТУПЛЕННЕ

На пленарным выступленні XXVI сесіі Генеральнай Асамблеі ААН выступіў міністр замежных спраў СССР А. Грамыка. Яго выступленне было выслухана з вялікай увагай дэлегатамі Генеральнай Асамблеі, а таксама выклікала зацікаўленне і многія каментарыі ў замежным радыё і друку.

Гаворачы аб мірнай палітыцы сацыялістычных краін, Грамыка адзначыў, што не прэтэндуюць яны на манаполію ў палітыцы міру і да такой манаполіі не імкнуцца. Наадварот, чым шырэйшае кола дзяржаў, якія адстойваюць справу міру, тым больш магчымасцей для руху наперад, да трывалай бяспекі.

Замацаванне прынцыпу мірнага суіснавання як рэальнай сілы міжнароднага развіцця, далейшая перагрупоўка палітычных сіл на міжнароднай арэне на карысць міру здольныя многае вызначыць. Грамыка падкрэсліў, што найбольшую ўвагу ў гэтых адносінах прыцягвае Еўропа. Прыкметамі развіцця надзей у напрамку да разрадкі напружанасці назваў ён: 1) падпісанне пагаднення па пытаннях, якія адносяцца да Заходняга Берліна; 2) узаемаразуменне і згоду паміж дзвюма дзяржавамі кантынентальнай Еўропы — Савецкім Саюзам і Францыяй; 3) факт, што ў ФРГ цяпер больш упэўнена, чым раней, бяруць верх сілы, якія больш цвяроза ацэньваюць становішча і абвяшчаюць выбар на карысць мірнай перспектывы.

Шэф савецкай дыпламатыі сказаў, што час зняць штучна ствараемыя перашкоды на шляху прыёму ГДР у ААН. Мы выказваемся, адзначыў А. Грамыка, за адначасовы прыём у ААН таксама ФРГ.

Гаворачы аб скліканні агульнаеўрапейскай нарады, Грамыка сказаў, што павінна яна наблізіць вырашэнне пытання аб ліквідацыі ваенных блокаў у Еўропе. Гэта прывяло б да глыбокай і ўсебаковай нармалізацыі становішча.

### ВЫПРАЦАВАНЫ ПРАПАНОВЫ

Паміж Савецкім Саюзам і Злучанымі Штатамі Амерыкі дасягнута дагаворанасць адносна прыняцця бакамі мер да прадухілення выпадковага або несанкцыянаванага ўжывання ядзернай зброі, якая знаходзіцца пад іх кантролем.

Дасягнута таксама дагаворанасць адносна мер па ўдасканальванню лініі прамой сувязі СССР — ЗША шляхам выкарыстання для гэтай мэты штучных спадарожнікаў Зямлі.

### ЗМЯНЕННЕ КАНСТЫТУЦЫІ

Прэзідэнт Турцыі зацвердзіў прынятым парламентам закон аб унясенні дапаўненняў і змяненняў у турэцкую канстытуцыю 1961 года.

Новы закон расшырае правы выканаўчай улады. Папраўкі, у прыватнасці, прадугледжваюць прадстаўленне ўраду права выдаваць законы ў форме дэкрэтаў, ажыццяўляць кантроль над універсітэтам, прафсаюзамі, друкам і радыё, ствараць спецыяльныя суды, а таксама спрашчаюць працэдуру ўвядзення ваеннага або надзвычайнага становішча. (АК)

## БССР

### БЕЛАРУСЬ У ААН

Як вядома, у Нью-Йорку адбываецца зараз XXVI сесія Генеральнай Асамблеі Арганізацыі Аб'яднаных Нацый. У яе рабоце прымае ўдзел дэлегацыя Беларускай ССР. Дэлегацыю ўзначальвае А. Гурыновіч, а ў яе саставе знаходзяцца Г. Жабіцкі, В. Смірноў, М. Дзялец і М. Калачынскі — як члены дэлегацыі ды А. Гарбачова, Б. Кудраўцаў, А. Расолька і Г. Нятрэбка — як намеснікі членаў дэлегацыі. Членства Беларусі ў ААН садзейнічае яе міжнароднаму значэнню.

### НА МІНСКІХ ІНСТРУМЕНТАХ

Мінскі інструментальны завод значную частку сваёй прадукцыі высылае на экспарт у Францыю, Бельгію, Чэхаславакію, Індыю, Іран, Ірак і, зразумела, таксама ў нашу краіну. Нядаўна рабочыя завода выканалі заказ польскіх фірм замежнага гандлю на чарговую партыю буйных сегментных піл.

### ГАНДЛЁВЫЯ КАНТАКТЫ БССР І ПОЛЬШЧЫ

Калі мы ўспомнілі аб пастаўцы мінскім заводам у нашу краіну металарэжучых інструментаў, дык варта прыгледзецца, як увогуле кшталтуюцца гандлёвыя кантакты між Польшчай і БССР. Адказны работнік замежнага гандлю пры Савеце Міністраў БССР П. Нескаромны ў інтэрв'ю для газеты «Голас Радзімы» вось так іх ацэньвае: «Плённа і вельмі эфектыўна развіваюцца гандлёвыя сувязі з Польшчай. Беларуская ССР з'яўляецца пастаянным пастаўшчыком для ПНР металарэзнага, у тым ліку і ўнікальнага, абсталявання, аўтамабіляў вялікай грузападымальнасці, радыё- і электронна-вымяральных прыбораў, дарожна-будаўнічых і сельскагаспадарчых машын і іншых вырабаў. Польшча — пастаянны спажывец беларускай электраэнергіі».

### ПАД ЗНАКАМ ХІМІІ

Шматзначна расшыраюць выпуск сінтэтычных валокнаў першы ў Беларусі хімічны завод імя Куйбышава ў Магілёве і Полацкі хімкамбінат. Адначасова ў Магілёве будуюць зараз новы завод сінтэтычнага валакна, а ў Гродне запланавана пабудаваць буйное прадпрыемства па вытворчасці капронавага валакна. Ужо на гэтых прыкладах відаць, што хімічная прамысловасць Беларусі перш за ўсё прымае пад увагу патрэбы насельніцтва. Да канца цяперашняй пяцігодкі выпуск штучных валокнаў павялічыцца амаль у тры разы.

### ЗДРАЎНІЦА ДЛЯ НАФТАВІКОЎ

На сто месц разлічаны прафілакторый, які будаўнікі перадалі ў карыстанне для Полацкага хімічнага камбіната імя 50-годдзя БССР. Новая здраўніца, у якой будуць лячыцца і адпачываць працаўнікі нафтавай прамысловасці, знаходзіцца ў маляўнічым сасновым бары.

### ЗАГАСПАДАРАННЕ ПАЛЕССЯ

Беларускае Палессе займае звыш 6 мільёнаў гектараў. Амаль палова з іх — балоты і забалочаныя глебы. Дзяржаўны план загаспадарвання Палесся прадбачвае, што на працягу 10—15 год асушка балот будзе закончана. Праводзіцца яна пад кантролем спецыяльна створаных навуковых устаноў. (вр)

## ПОЛЬШЧА

### НАРАДА АКТЫВУ

29 верасня г.г. у Кентшыне адбылася нарада гаспадарчага і грамадскага актыву ПГР Варміі і Мазур, у якой прымаў удзел I сакратар ЦК ПАРП Э. Герэк. Нарада была склікана з мэтай дыскусіі над дырэктывамі на VI з'езд ПАРП. Адным з выступаючых быў дырэктар Ваяводскага аб'яднання ПГР — Лешэк Краўзэ, які прадставіў прысутным на нарадзе напрамкі і магчымасці павышэння сельскагаспадарчай прадукцыі. Перш за ўсё неабходна рацыянальна выкарыстоўваць зямельныя ўгоддзі ПФЗ, лепш карыстаць з тэхнічнага прагрэсу, уводзіць новую тэхналогію і новыя метады павышэння эфектыўнасці гаспадарання, прымяняць большыя, чымсьці зараз, колькасці мінеральных угнаенняў, а таксама павялічыць пагалоўе быдла і свіней. Тормазам у развіцці сельскагаспадарчай прадукцыі з'яўляецца недахоп запасных частак да сельскагаспадарчых машын.

На заканчэнне нарады слова ўзяў Э. Герэк. I сакратар ЦК ПАРП адзначыў, што ад павышэння сельскагаспадарчай прадукцыі залежыць паляпшэнне бытавых умоў грамадства. Зараз усё больш увагі будзе прысвячацца справам развіцця ПГР-аў, якія з году ў год павялічваюць свой удзел у сельскай гаспадарчай прадукцыі. Іншай важнай справай у сельскай гаспадарцы з'яўляецца справа змякчэння вынікаў летняй сушы. І таму неабходна для гэтага выкарыстаць перш за ўсё ўласныя пашавыя рэзервы. У Альштынскім ваяводстве ёсць умовы для развіцця сельскай гаспадаркі і сельскагаспадарча-спажывецкай прамысловасці. Неабходна больш увагі прысвяціць напрамкам яго далейшага гаспадарчага развіцця.

### МАНІФЕСТАЦЫЯ НА ВЭСТЭРПЛЯТТЭ

30 верасня г.г. на Вэстэрпляттэ, дзе 32 гады таму назад распачалася II сусветная вайна, адбылася вялікая маніфестацыя моладзі пад лозунгам «Моладзь абвінавачвае імперыялізм». Моладзь дэманстравала свой пратэст супраць імперыялістычных войнаў, супраць прыгнёту народаў і праследвання сіл міру і прагрэсу. У маніфестацыі прымалі ўдзел дэлегацыі з цэлай Польшчы і маладзёжныя прадстаўнікі з краін, якія змагаюцца з прыгнётам і імперыялістычнай экспансіяй. Прысутнічалі ў ёй таксама гаспадары гданьскай зямлі Алойзы Каркошка і Тадэвуш Бэйм, віцэ-міністр нацыянальнай абароны — генерал дывізіі Тадэвуш Тучапскі, старшыні маладзёжных арганізацый і г.д. Удзельнічаў таксама ўдзельнік баёў за вызваленне Польшчы, генерал-палкоўнік Канстанцін Крайнюкоў. Кульмінацыйным пунктам урачыстасці быў заклік абвінавачвання. Выступалі пры гэтым: удзельнік абароны Вэстэрпляттэ маёр рэзерва Лявон Паёнк, савецкі генерал, былы вязень канцлагера ў Штутгофе, в'етнамская дзяўчына, малады грэк, кубінец і іншыя. У заканчэнні ўрачыстасці прачыталіся словы сабраўшыхся да моладзі з цэлага свету: «Ніколі не спынімся ў барацьбе за мір і ў выпадку неабходнасці будзем гэты мір бараніць так, як нашы бацькі тут, на Вэстэрпляттэ, баранілі айчынную зямлю перад гітлераўскімі захопнікамі». (яц)

## ВАЯВОДСТВА

### НАРАДА АСВЕТНІКАЎ

Нядаўна ў ваяводскім камітэце партыі ў Беластоку адбылася нарада партыйна-асветнага актыву. Прысвечана яна была абмяркоўцы заданняў і месца беластоцкіх настаўнікаў у перадз'ездаўскай дыскусіі над дырэктывамі.

Старшынёй нарады быў I сакратар ВК А. Лашэвіч. Удзельнічалі таксама кіраўнік аддзела асветы і навукі ЦК тав. Р. Язерскі, прэзас ГП ЗНП М. Вальчак, віцэ-міністр асветы і вышэйшага школьніцтва Е. Волчык, намеснік старшыні прэзідыума ВРН Р. Лазаровіч, прадстаўнікі ваяводскіх асветных і прафсаюзных улад.

З дакладам аб праблемах асветы выступіў сакратар ВК Ул. Юшкевіч. Асабліва падкрэслівалася ў дакладзе роля настаўнікаў ва ўдасканальванні працэсаў навучання. Пошукі лепшых, найбольш эфектыўных метадаў — вось адна з найбольшых праблем, якія пастаўлены перад настаўнікамі ў дыскусіі над дырэктывамі з'езда.

### ПЕРАДЗ'ЕЗДАЎСКАЯ КАМПАНІЯ

Ва ўсіх асяроддзях адбываюцца сходы, прысвечаныя перадз'ездаўскай працы і выбару дэлегатаў на павятовыя і гарадскую канферэнцыі. На апошнім пленарным пасяджэнні ВК была зацверджана праграма перадз'ездаўскай дзейнасці, і гэты дакумент разам з лістам экзекутывы ВК атрымалі ўсе сакратары падставовых арганізацый.

Найбольш актыўна дыскутуюць на сваіх сходах рабочыя і служачыя вялікіх прадпрыемстваў. Напрыклад, на сходзе на фастаўскім камбінаце абмяркоўвалася справа лепшага забеспячэння рынку, а разам з тым і ўдасканальвання сродкаў прадукцыі і якасці вырабаў. Толькі рабочыя беластоцкіх прадпрыемстваў узялі на сябе вытворчыя абавязацельствы, якія дадуць дадаткова 90 млн. злотых, а таксама абавязаліся выканаць шмат працы грамадскім чынам.

### ПАЧАТАК ЗАНЯТКАЎ

1 кастрычніка пачаўся новы навучальны год у беластоцкіх вышэйшых навучальных установах. Найбольшай па колькасці з'яўляецца цяпер Вышэйшая інжынерская школа, якая гуртуе 2,5 тыс. студэнтаў. Сёлета на першы курс яна прыняла 625 чалавек. Другое месца па колькасці студэнтаў займае Медыцынская акадэмія (1700 чал.) і трэцяе — філіял Варшаўскага універсітэта.

Дзякуючы гэтым вышэйшым навучальным установам Беласток стаў горадам 5,5 тысяч студэнтаў.

### ФІНСКІЯ ЭКАНАМІСТЫ

Па запрашэнню Польскага эканамічнага таварыства тры дні ў Беластоку прабывалі члены Фінскага эканамічнага таварыства: начальнік фінскага гандлёвага банку Ярма Рауло і ад'юнкт Вышэйшай эканамічнай школы ў Хельсінках Аска Карпела.

Госці сустрэліся з беластоцкім эканамічным актывам, агледзелі Беласток, пабывалі ў Белавежы.

### НА АДБУДОВУ ЗАМКА

Члены Саюза сялянскай моладзі (ЗМВ) нашага ваяводства вырашылі ўнесці свой уклад у адбудову каралеўскага замка. На лозунг: кожны член ЗМВ — сімвалічную залатоўку, вясковая моладзь сабрала ўжо 36 тыс. злотых. (яч)




**Niedziela 10.X.**

8.05 Program dnia. 8.10 TV Kurs Rolniczy: „Produkcja pasz i organizacja żywienia w gospodarstwie” cz. I. 8.45 „Przypominamy radzimy”. 9.00 TV Klub Śmiałych. 10.50 „Kuba” cz. II („W cztery świata strony”). 11.40 Dziennik. 12.00 Sprawozdanie z międzypaństwowego meczu piłki nożnej w ramach eliminacji do mistrzostw Europy: Polska — NRF. W przerwie ok. 12.45 PKF. 13.45 „Przemiany”. 14.15 „W starym kinie” — Andrzej Munk — cz. II. 15.15 Dla dzieci: „Mój tata jest żołnierzem” — koncert dziecięcych zespołów artystycznych. 16.05 „Spotkanie z Reginą Smendzianką”. 17.00 „Wielka gra”. 17.50 „Piórkiem i węglem”. 18.15 „Piosenka dla Ciebie”. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Gilda” — film fab. USA. 21.50 Magazyn sportowy. 22.20 „Galeria”.

**Poniedziałek 11.X.**

15.20 i 22.30 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Fizyka. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 „Zwierzyniec”. 17.30 „Eureka”. 18.00 Transmisja koncertu z Sali Kongresowej PKiN z okazji Dnia Wojska Polskiego. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 Teatr TV: St. I. Witkiewicz — „Kurka wodna”. 21.35 „Wojsko śpiewa” — rep. 22.05 Dziennik.

**Wtorek 12.X.**

9.00 Dla szkół: (kl. I lic.) Język polski — Sofokles „Antygona”. 10.00 Dla szkół: (kl. IV) „Chmurka przepowiada”. 10.20 „Wilcze echa” — film fab. pol. 12.00 Uroczyste ślubowanie oficerów WP, tegorocznych absolwentów szkół oficerskich. 13.00 i 13.55 Przysposobienie Rolnicze: „Przechowywanie i konserwacja pasz”. 15.20 i 22.50 Politechnika TV I roku. Matematyka. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 „Nasze gospodarstwo”. 17.10 „Oferty”. 17.25 Ekran Młodych. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.00 „Spotkanie z generałem” — program w 28 rocznicę bitwy pod Lenino. 20.50 „Wilcze echa” — film fab. pol. 22.30 Dziennik.

**Środa 13.X.**

9.00 Dla szkół: (kl. VII) Chemia — „Gaz życia”. 10.00 „Stracone złudzenia” — film franc. 10.55 Dla szkół: (kl. VII) Fizyka — „O ruchach”. 11.55 Dla szkół: (kl. VII) Historia — „W Królestwie Polskim”. 13.40 „Wybieramy zawód”. 15.20 i 22.55 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Matematyka. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla młodych widzów: „Klub Kluczników”, „Latający Holender”. 17.30 „Perspektywy techniki”. 18.00 Sprawozdanie z II połowy meczu piłki nożnej o mistrzostwo I ligi „Ruch” (Chorzów) — „Legia” (Warszawa). 18.45 „Mieszkaniowe progi”. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Stracone złudzenia” — film franc. 21.00 „Światowid”. 21.40 „Muzyka naszych przyjaciół”. 22.35 Dziennik.

**Czwartek 14.X.**

8.15 Matematyka w szkole: „Problemowe wprowadzenie pojęć matematycznych” cz. II. 9.00 Dla szkół: (kl. VI) Historia — „Złamanie potęgi krzyżackiej” 9.55 Dla szkół: (kl. II lic.) Język polski — „Aleksander Puszkin”. 15.20 i 22.20 Politechnika TV I roku. Chemia. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 „Ekran z bratkiem”. 17.45 Magazyn ITP. 18.00 „Poligon”. 18.30 TV Kurier Kielecki. 18.45 „Z teki folklorystycznej Adolfa Dygacza”. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.00 „Przypominamy, radzimy”. 20.05 „Hasło Korn” — film fab. pol. 21.25 „Refleksje”. 22.00 Dziennik.

**Piątek 15.X.**

8.00 TV Kurs Rolniczy: „Produkcja pasz i organizacja żywienia w gospodarstwie” cz. II. 9.30 „Hasło Korn” — film fab. pol. 10.55 Dla szkół: (kl. VIII) Wychowanie obywatelskie — „Nasza rada”. 11.55 Dla szkół: (kl. VII—VIII) Wychowanie plastyczne — „Rzeźba”. 12.45 Dla szkół: (kl. I—III lic.) Przysposobienie obronne — „Służba wojskowa zaszczytnym obowiązkiem”. 15.20 i 22.20 Politechnika TV I roku. Matematyka. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 „Pan Półka i spółka”. 17.30 „Nie tylko dla pań”. 17.50 Magazyn Medyczny. 18.20 TV Kurier Mazowiecki. 18.35 „Gramy o telewizor”. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Diament radży” — nowela filmowa TVP. 20.30 „Kraj”. 21.10 Teatr TV: N. Chajtow — „Psy”. 22.00 Dziennik.

**Sobota 16.X.**

9.00 Dla szkół: (kl. V) Geografia — „Ziemia — nasza planeta”. 10.00 „Fałszywy krok” — film fab. USA. 11.55 Dla szkół: (kl. VIII) Geografia — „Kanada”. 15.50 Program dnia. 15.55 Program I proponuje. 16.15 Redakcja Szkolna zapowiada. 16.30 Dziennik. 16.45 Dla młodych widzów: Trójmecz harcerski. 17.50 „Spotkania z przyrodą”. 18.20 TV Kurier Warszawski. 18.35 „Tele-Echo”. 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.20 „Non-Stop” — magazyn rozrywkowy nr 2. 21.50 Dziennik. Wiadomości sportowe. 22.10 „Fałszywy krok” — film fab. USA.




**Piątek, 8 października**

8.05 Nowiny. 8.15 Film dla dzieci. 8.45 Film fab. 10.15 Koncert zespołu pieśni i tańca. 10.45 Nowiny. 14.55 Program dnia. 15.00 Nowiny. 15.10 Dla uczniów. 15.40 Dla wsi. 16.00 Panorama nowin. 16.10 Towarzyszka piosenka. 17.00 Ostatnie imperium. 17.30 Dla wsi. 17.55 Piłka nożna. „Dynamo” (Mińsk) — „Karpaty” (Lwów). 18.45 Koncert chóru białoruskiej TV. 19.15 Czas. 19.45 Teatr miniatur. 20.55 Piłka nożna. „Dynamo” (Moskwa — „Dynamo” (Tbilisi). 21.40 Festiwal filmów TV. 22.00 Nowiny.

**Sobota, 9 października**

9.20 Szkatułka muzyczna. 9.30 Przegląd międzynarodowy. 10.30 Festiwal twórczości ludowej. 12.00 W eterze „Młodość”. 13.15 Filmy animowane. 14.00 Dla uczniów. 15.30 Śpiewa Borys Sztokołow. 16.00 Nowiny. 16.10 Poezja. 16.35 Film fab. 17.30 Koncert. 18.30 Czas. 19.00 Koncert. 20.00 Festiwal filmów TV. 21.00 Wieczorne melodie. 21.45 Nowiny.

**Niedziela, 10 października.**

8.00 Kiosk muzyczny. 8.30 Ziemia i ludzie. 9.15 Dla żołnierzy. 9.55 Białe i czarne. 10.10 Festiwal twórczości ludowej. 11.40 Film fab. 12.25 Program międzynarodowy. 12.50 Spotkania muzyczne. 13.20 Dla wsi. 14.20 Klub filmowy. 15.20 Koncert. 17.30 Hokej. „Spartak” (Moskwa) — „Chimik” (Woskresiensk). 18.15 Czas. 18.45 Koncert. 20.05 Film fab. 21.15 Festiwal filmów TV.



*Хлебам і соллю сустракаюць прадстаўнікі Пружаншчыны сваіх сяброў з-за мяжы.*

# МІТЫНГ ДРУЖБЫ



*І сакратар ПК ПАРП у Гайнаўцы ўручае адзнаку «Заслужаны для Беласточчыны» І сакратару Пружанскага РК КПБ І. Качуры. Такая ж адзнака была ўручана таксама старшыні Пружанскага райсавета А. Грышчуку.*



*Кветкі на брацкую магілу ад дэлегацыі гайнаўскага аддзела БГКТ.*



*Ля брацкай магілы.*



*Дзяўчаты з калектыву Пружанскага дома культуры прывіталі гасцей прыгожымі кветкамі.*

У адным з самых маляўнічых куткоў Белавежскай пушчы, непадалёк ад дзяржаўнай граніцы ёсць брацкая магіла, у якой вечным сном спяць, закатаваныя гітлераўцамі, беларусы і палякі. Кожны год ля гэтай магілы сустракаюцца суседзі па мяжы — жыхары Пружанскага раёна і Гайнаўскага павета, каб ушанаваць памяць загінуўшых. Так было і сёлета, 12 верасня. Мітынг адкрыў старшыня райвыканкома А. Гурышчук. Потым выступілі І сакратар Пружанскага РК КПБ І. Качур і І сакратар Гайнаўскага ПК ПАРП А. Лазоўскі. Мітынг ператварыўся ў дэманстрацыю савецка-польскай дружбы.

*Тэкст і фота: Віктар Бура*

## Правілы агляду «БЕЛАРУСКАЯ ПЕСНЯ 72»

I. Арганізатары: ГП БГКТ і рэдакцыя «Нівы», суарганізатары: аддзелы культуры, ВП ЗМВ, ВЗГС, «Рух», ОСП, ВЗКР, ВДК, ПДК, ВКЗЗ і ВСС «Сполэм».

У сувязі з арганізацыяй аглядаў праўленні аддзелаў і ГП БГКТ звяжуцца з вышэй названымі ўстановамі і арганізацыямі, а таксама створаць арганізацыйныя камітэты.

II. Агляд з'яўляецца трохступенны:
- — мясцовыя элімінацыі,
- — элімінацыі ў аддзелах,
- — заключны канцэрт.

III. Мэтай агляду з'яўляецца папулярызацыя беларускай песні ў самых шырокіх колах грамадскасці, а асабліва сярод моладзі і сярод самадзейнага мастацкага руху. Трывалым даробкам агляду павінна быць увядзенне беларускай песні ў святліцы, клубы і дамы культуры, а таксама ўключэнне яе ў рэпертуар вакальна-музычных калектываў не толькі ў беларускім асяроддзі, але ў асяроддзі змешаным і польскім.

IV. У аглядзе могуць прыняць удзел аматары: салісты, дуэты і вакальныя калектывы да васьмі чалавек. Па-за конкурсам у паасобных элімінацыях і ў заключным канцэрце могуць прымаць удзел выступаючыя прафесіянальна спевакі, спевакі — абсальвенты і студэнты вакальных аддзяленняў музычных школ.

V. Узрост удзельнікаў — ад 15-ці гадоў і вышэй. Школьная моладзь можа прымаць удзел толькі ў адным конкурсе (школьны альбо для дарослых).

VI. Кожны ўдзельнік або калектыў абавязаны падрыхтаваць дзве песні на беларускай мове.

VII. Мясцовыя элімінацыі ў асяроддзях неабходна правесці ў лістападзе — снежні 1971 года.

Элімінацыі ў аддзелах неабходна правесці ў студзені-лютым 1972 года.

Лаўрэатаў элімінацый у аддзелах на заключны канцэрт вызначае камісія, створаная ГП БГКТ. Колькасць удзельнікаў з аддзелаў будзе залежаць ад узроўню выканаўцаў, а канчатковае рашэнне будзе належаць да камісіі.

Заключны канцэрт адбудзецца ў месяцы сакавіку 1972 года ў ГП БГКТ.

VIII. Для ацэнкі мясцовых элімінацый арганізацыйныя камітэты ў аддзелах ствараюць камісію з 3—7 асоб.

IX. Журы ацэньвае выканаўцаў паводле наступных крытэрыяў:
- — голас 1—10 пунктаў,
- — інтэрпрэтацыя — 1—10 пунктаў,
- — падборка рэпертуару — 1—10 пунктаў.

X. Для лаўрэатаў элімінацый у аддзелах журы прызнае ўзнагароды, якія прызначылі арганізатары і суарганізатары.

XI. Кошты падарожжа на элімінацыі ў аддзелах і заключны канцэрт пакрываюць арганізатары і суарганізатары адпаведнага ўзроўню.

XII. Удзельнікі агляду беларускай песні могуць карыстацца наступнымі рэпертуарнымі крыніцамі:

1. «Радзіма мая дарагая» — песні беларускіх кампазітараў. Выдавецтва «Беларусь». Мінск 1967 г.
2. «Песні савецкага часу». Выдавецтва «Навука і тэхніка». Мінск, 1970 г.
3. «Лірычныя песні»— для мастацкай самадзейнасці. Гадавікі.
4. Беларускія песні, змешчаныя на старонках тыднёвіка «Ніва», органа ГП БГКТ.
5. Песні, змешчаныя ў календарах і іншых выданнях ГП БГКТ.
6. Народныя песні рэгіянальныя, абрадавыя, беларускія прыпеўкі, не змешчаныя ў ніякіх выданнях.
7. «Анталогія беларускай народнай песні». Выдавецтва «Беларусь». Мінск, 1968 г.
8. Скрыпты, выдадзеныя ГП БГКТ, а таксама іншыя крыніцы.

# ДЛЯ НАСТАЎНІКАЎ

Павятовая педагагічная бібліятэка ў Сямяцічах заснавалася ў месяцы верасні 1954 года. Знаходзілася яна тады, як пацвярджаецца ў бібліятэчнай хроніцы, на калідоры аддзела асветы. Першым яе кіраўніком быў Адольф Такарскі, які ўзбагаціў бібліятэку новымі кнігамі, дык налічвала яна тады 930 кніжак. Ад 1962 года нязменна працуе ў настаўніцкай бібліятэцы Тэрэса Каханская. Ад мінулага года ёсць у яе памочнік. Гэта Аліцыя Бжазоўская. Зараз бібліятэка налічвае больш 10 тысяч кніжак і каля 500 чытачоў. У сваёй штодзённай працы кіраўнік бібліятэкі Т. Каханская і бібліятэкарша А. Бжазоўская прыходзяць з вялікай дапамогай перш за ўсё настаўнікам, якія павышаюць сваю адукацыю або здаюць кваліфікацыйныя экзамены. Кніжкі патрэбныя тым, хто вучыцца, бібліятэка заказвае ў Ваяводскай педагагічнай бібліятэцы ў Беластоку, ва універсітэцкіх бібліятэках, а таксама ў ПАН-аўскай ці Нацыянальнай бібліятэках у Варшаве. Для тых, хто здае кваліфікацыйныя экзамены, зараз у бібліятэцы выдзелены асобны кнігазбор. Важна пры тым тое, што ўсе здаючыя кваліфікацыйныя экзамены маюць патрэбныя кнігі на месцы ў сваёй бібліятэцы.

Работнікі настаўніцкай бібліятэкі вельмі актыўна прапагандуюць кнігазбор — рэцэнзуюць шматлікія кнігі, робяць выстаўкі выдавецкіх навінак, а таксама ездзяць з імі на настаўніцкія канферэнцыі. Пастаяннымі чытачамі настаўніцкай бібліятэкі з'яўляюцца перш за ўсё: Генрык Лэмпіцкі (Лэмпіцэ), Надзя Новік (Сямячічы), Крыстына Васюк (Чартаеў), Ірэна Крынская (Сямяцічы), Галена Марчук (Сямяцічы), Ірэна Паўтарак (Сямяцічы), Браніслава Татарчук (Чартаеў), Станіслава Клапатоўская (Мэнтна), Данута Харко (Цехановец), Тэрэса Халява (Сямяцічы), Люцына Згет (Сямяцічы), Юзэф Красускі (Сямяцічы) і г.д. Варта адзначыць, што кіраўніцтва педагагічнай бібліятэкі арганізуе шматлікія сустрэчы з навуковымі супрацоўнікамі Інстытута педагогікі ў Варшаве, напрыклад, з Эдвардам Флемінгам, Міхалам Яворскім і Маркам Жэлязкевічам.

Мая субяседніца, Тэрэса Каханская, шчыра сцвярджае, што моцна палюбіла сваю працу. Зараз завяла яна ў бібліятэцы належны парадак, уставіла кнігі паводле новай класіфікацыі, абсталявала чытальню, і смела можна сказаць, што большую частку пільнай работы мае паза сабой. Нямала працы патрабуецца для ўвядзення ў кнігазбор новых кніжак, якіх тут штогод прыбывае паўтысячы, на суму 30 тысяч злотых. Але Тэрэса Каханская паспяхова з гэтым спраўляецца, бо як жа не справіцца, кажа яна, калі гэтая праца дае шмат задавальнення. Сама яна па прафесіі настаўніца, і таму добра ведае, якія кніжкі настаўнікам патрэбны. На заканчэнне неабходна дадаць, што ў гэтым годзе з нагоды святкавання Свята Адраджэння Польшчы Тэрэсу Каханскую ўзнагародзілі Сярэбраным крыжам заслугі за грамадскую дзейнасць у сваім асяроддзі. З нагоды набліжаючагася 10-годдзя працы Тэрэсы Каханскай у бібліятэцы жадаем ёй самых лепшых поспехаў у працы і ў асабістым жыцці.

*Янка Цялушэцкі*

# БУДАЎЛЯНЫЯ БРЫГАДЫ — ПРАДПРЫЕМСТВАМІ

Каб весці дробную інвестыцыйную дзейнасць, спулдзельчасць «Самапомачы хлопскай» стварыла ўласныя рамонтна-будаўляныя брыгады. Адыгралі яны велізарную ролю пры пабудове асабліва вясковых крам. Варта напомніць, што адна з першых брыгад узнікла на Гайнаўшчыне, а зараз гэта велізарная будаўляная спулдзельня, якая прыняла назву «Чын». Выконвае яна працы на тэрыторыі амаль цэлага ваяводства, спецыялізуючыся ў правядзенні электрычнасці.

Аднак такіх, як гайнаўская спулдзельня «Чын», не многа. У Беластоцкім ваяводстве дзейнічае 15 раздробленых будаўляна-рамонтных адзінак. А вядома, што гэтыя дробныя рамонтныя брыгады не могуць выконваць новых, больш складаных будоўляў. З другога боку, кожны год трэба было даваць па нейкай частцы інвестыцыі для кожнага ЗУРБ (так называюцца рамонтна-будаўляныя спулдзельні), каб ён мог нешта рабіць, а рабочыя мелі з чаго жыць. Гэта было прычынай, што пабудова аб'ектаў працягвалася вельмі доўга. У 1969 годзе будавалася аж 35 аб'ектаў, якіх не маглі аддаць у карыстанне ЗУРБ-ы. Год 1970 прынёс такіх незаконччаных будоў толькі восем.

Іншай прычынай слабасці ЗУРБ-аў былі страты. Страты гэтыя вынікалі ў асноўнай меры з негаспадарнасці і няўмеласці працуючых тут кадраў. Выканаўчыя адзінкі вельмі часта прымалі дакументацыю з заніжанымі коштарысамі, а гэта, як вядома, у часе выканання прыносіць балаган. Страты вынікалі і з несаліднасці пры эвідэнцыі прац, чым займаліся майстры.

Можна смела сказаць, што кадравыя справы ў рамонтна-будаўляных спулдзельнях «Самапомачы хлопскай» былі дрэнныя. Вядома, майстар гэта рамеснік, а не спецыяліст ад дакументацыі.

Каб паправіць гэтыя справы, вырашана было спалучыць некаторыя ЗУРБ-ы. Такім чынам паўстане менш адзінак, але будуць яны мацнейшыя. Перш за ўсё будуць мець лепшыя прылады і будаўляныя машыны, ды будзе іх больш. Гэта дазволіць хутчэй будаваць. З другога боку, большае прадпрыемства можа дазволіць сабе на лепшыя інжынерна-тэхнічныя кадры, што павінна элімінаваць такія недарэчнасці, якія дагэтуль здараліся. Рэарганізацыя гэтая праводзіцца памалу, каб не тармазіць прац на будовах, якія вядуць паасобныя ЗУРБ-ы. (ак)

# Віталіс Высоцкі

Віталіс Высоцкі з'яўляецца старшынёю грамадскага камітэта ЗСЛ і адначасова прэзасам сельскагаспадарчага гуртка ў Мілейчыцах, Сямяціцкага павета. У сваім асяроддзі Віталіс Высоцкі карыстаецца вялікім аўтарытэтам. У мілейчыцкай акрузе члены ЗСЛ з'яўляюцца членамі сельскагаспадарчых гурткоў. Сельгасгурткі дзейнічаюць рэнтоўна. Для прыкладу, сельскагаспадарчы гурток у Мілейчыцах, які ўзначальвае В. Высоцкі, меў у мінулым годзе 23 тысячы злотых даходу. Гурток гэты мае 6 трактараў з камплектамі падвесных машын, 2 жняяркі, 2 снапавязалкі і іншыя сельскагаспадарчыя машыны.

Варта адзначыць, што члены ЗСЛ у мілейчыцкай акрузе паспяхова рэалізуюць кантрактацыю збожжавых культур, планы выкупкі мінеральных угнаенняў, а таксама грамадскія чыны. І так зэтэсэльцы з Валкаў грамадскім чынам будавалі дарогу з Валкаў да Любэйкі, члены ЗСЛ з Паканева працавалі пры пабудове святліцы і прышкольнай агароджы і г.д.

Віталіс Высоцкі гэта не толькі актыўны дзеяч і арганізатар. Гэта перш за ўсё добры гаспадар, які мае добрыя вынікі ў жывёлагадоўлі, а таксама добрыя ўраджаі збожжавых культур. Значную частку палявых работ ён выконвае пры дапамозе машын. (яц)




# Перыяд Вялікага княства Літоўскага

## ПАЛЕМІСТЫ І ПРАПАВЕДНІКІ — ЧАСТКА II.

У Беларусі, Расіі і на Украіне паявілася грамадская літаратура, якая ў меншай ці большай ступені спасылалася на вядомую ўжо нам кнігу Пятра Скаргі. У многіх выпадках, адносіцца гэта перш за ўсё да пачатковага перыяду палемікі, адказы праваслаўных былі непрадуманыя, не надта абгрунтаваныя і не навуковыя. У пазнейшы перыяд аднак паявіліся працы, аргументаваныя глыбей. Значную ролю ў развіцці гэтай палемікі адыграў Канстанцін Астрожскі, які ў канцы 70-тых гадоў стварыў у сваёй радавой мясцовасці Астрогу грэка-славянска-праваслаўную школу. Са школы гэтай выйшлі многія выдатныя палемісты і прапаведнікі.

Многія палемісты выйшлі таксама з лагера уніятаў, якія, зразумела, перанеслі ідэі Скаргі і прапагандавалі іх часта на беларускай мове. Выдатным прадстаўніком гэтага напрамка быў Іпацій Пацей, якім зоймемся яшчэ ў будучыні.

Зараз прысвецім пэўную ўвагу першым палемістам, кнігі якіх старaліся збіваць аргументацыю Скаргі і даводзілі слушнасць праваслаўных ідэй і догмаў.

Падобна, першы адказ Скаргу быў зроблены арыянінам — пратэстантам, нейкім Матавілам па даручэнню Канстанціна Астрожскага. Кніга Матавілы аднак не выйшла з друку. Даведаўся аб ёй і, мабыць, прачытаў рукапіс вядомы праваслаўны артадокс князь Андрэй Курбскі. Князь не ўяўляў сабе, каб можна было змагацца з католікамі пры дапамозе пратэстанта, і таму абазваў рукапіс найгоршымі словамі.

Іншыя адказы на кнігу Скаргі таксама з бліжэй невядомых прычын засталіся ў рукапіснай форме. Сярод іх найбольшую цікавасць для нас прадстаўляюць працы манахаў Супрасльскага манастыра. Манастыр гэты доўгі час заставаўся цэнтрам барацьбы з езуіцкай экспансіяй. Да прац, якія адзначаюцца значнай арыгінальнасцю думкі, належаць: «Посланіе до латынян із іх же кніг», «Поученіе новосложенное во Літваніі» і «На богомерзкую, на поганую латіну... сказаніе».

Не ўсе гэтыя працы прадстаўляюць аднолькавую вартасць. У адных з іх выступае аргументацыя прадуманая, зблiжаная да навуковага аналізу, у другіх бачым выразную перавагу эмоцыі над развагай. Умяшчэнне ў загалоўку такіх эпітэтаў, як «богомерзкая» ці «поганая» сведчыла, што некаторыя з палемістаў адклікаліся да традыцыі Феадосія Пячэрскага і іншых яму падобных дзеячоў праваслаўнай царквы, якім здавалася, што паспяховасць барацьбы з латынянамі залежыць толькі ад вострасці, катэгарычнасці і грубасці слоў.

Сярод названых вышэй прац манахаў Супрасльскага манастыра ўвагі заслугоўвае «Посланіе до латынян...» Твор гэты, праўдападобна, быў напісаны ў канцы 70-тых гадоў XVI ст. Аўтар твора не вядомы. У «Пасланіі» шырока выкарыстаў аўтар аргументы і погляды многіх тэарэтыкаў і практыкаў каталіцкага касцёла. Галоўныя весткі твора скіраваны супраць рымскага папы. Аўтар не толькі не прымае тэзіса Скаргі аб тым, што папа — намеснік бога на зямлі, але на прыкладзе многіх фактаў даказвае, што многія папы былі тыповымі распуснікамі, багачамі, эгаістамі. Паводле аўтара, папа не можа прэтэндаваць да ролі апостала хрыстовай згоды, пакоры, бо сам ён з'яўляецца сімвалам тыраніі і хцівасці. Які ж ён служака божы, пытае аўтар, калі людзі-служакі носяць яго ў лектыцы, а ўсе веруючыя мусяць перад ім падаць на твар. А калі хто не ўпадзе, то змусіць яго да гэтага палкамі папская служба.

Аўтар прыпісвае рымскім папам таксама палавую разбэшчанасць і даказвае, што такія людзі не могуць быць аўтарытэтам ні ў галіне рэлігіі, ні ў галіне звычаёвасці, ні ў галіне этыкі.

Ці аргументацыя «Пасланія» заўсёды застаецца ў згодзе з гістарычнымі фактамі, з рэчаіснасцю? Бывае тут па-рознаму. Аўтар свядома канцэнтруе чорныя фарбы ў рысунку постаці рымскага папы. Мабыць, свядома пераносіць аўтар усе адмоўныя здарэнні, факты, схільнасці з жыцця касцёла ці розных яе прадстаўнікоў на постаць папы.

Зрэшты, нас не цікавіць верагоднасць, слушнасць ці фальшывасць аргументацыі аўтара. Таксама, як гэта мала нас цікавіла і ў выпадку кнігі Скаргі.

Мы павінны перш за ўсё цікавіцца літаратурнымі аспектамі гэтых твораў. У гэтым сэнсе «Посланіе» прадстаўляе значную вартасць. Твор гэты адзначаецца дынамічнасцю, палемічным задорам, вобразнасцю.

Аўтар, несумненна, ведаў інтэлектуальны ўзровень тагачаснага сярэдняга грамадскага слоя. Да густаў і патрэб гэтага слоя дакладна дапасаваны ўзровень кнігі. Пры гэтым аднак не мала ў ёй эпізодаў, асабліва звязаных з палемікай і тэарэтыкамі каталіцызму, якія маглі быць зразумелыя і даступныя толькі чытачам з адпаведнай рэлігіязнаўчай падрыхтоўкай.

Другая праца супрасльскіх манахаў «На богомерзкую, на поганую латіну» не мела ні той глыбіні, ні той пафаснасці, якую мы бачым у папярэднім творы. Пытанні, закранутыя ў гэтым творы, адносяцца больш-менш да тых самых, што і ў папярэднім творы, спраў і з'яў. Аўтар аднак быў, мабыць, чалавекам з меншым, чым яго папярэднік (а можа сучаснік) талентам. Зрэшты, твор гэты быў, бадай, прызначаны для праваслаўных нізоў і гэта, быць можа, у нейкай ступені акрэсліла яго характар. Прымітывізм аргументаў выступае ў многіх эпізодах гэтай працы.

Істотным момантам для нас, жыхароў Беласточчыны, з'яўляецца тое, што аўтары гэтых прац жылі і дзейнічалі на нашай зямлі.

# Культурны ўздым у Міхалове



*Грамадскі цэнтр культуры і кіно «Чайка» ў Міхалове. Фота аўтара.*

Адрамантаваны будынак дома культуры ў Міхалове, Беластоцкага павета, перададзены ў карыстанне ў канцы мая гэтага года. У доме культуры адкрыты грамадскі цэнтр культуры, клуба-кавярня «Рух», грамадская бібліятэка і чытальня. Памясцілася тут таксама кіно «Чайка» на 170 асоб. Варта адзначыць, што міхалоўскі дом культуры з'яўляецца зараз адным з найпрыгажэйшых культурна-асветных цэнтраў у Беластоцкім павеце. Кіраўніцтва дома культуры адразу ж разгарнула шырокую культурна-асветную дзейнасць. Найбольшымі ініцыятарамі гэтага культурнага зруху з'яўляюцца кіраўнік дома культуры Рышард Варабей і культурна-асветны інструктар Мікалай Баўтручук. Зараз у доме культуры дзейнічаюць музычны, тэатральны, і дзіцячы танцавальны калектывы, а таксама фатаграфічны гурток.

Сяміасабовым музычным калектывам кіруе інструктар Янкоўскі. Члены калектыву самі складаюць уласныя музычныя творы, выкарыстоўваюць розныя сучасныя тэксты і мелодыі. У будучыні калектыў намеран купіць сабе арганы. Мастацкі калектыў дае канцэрты на фэстынах або на розных грамадскіх мерапрыемствах. Тэатральны калектыў налічвае 12 асоб. Кіруе ім інструктар Мікалай Баўтручук. Калектыў ставіў п'есу Ю. Геніюша «Вываражала». Апрача таго, пад кіраўніцтвам М. Баўтручука дзейнічаюць самадзейныя калектывы ў Пяньках і Геранімове. Дзіцячы танцавальны калектыў вядзе інструктар Віткоўскі. Заняткі адбываюцца ў нядзелю. Фатаграфаваць вучыць Генрык Матыс. Фотааматары атрымалі ў ГОК-у добра абсталяваную фатаграфічную лабараторыю. Зараз вучыцца фатаграфаваць 12 асоб. Спартыўным калектывам кіруюць настаўнікі мясцовых школ Мечыслаў Гавенчык і Юзэф Крыштопа. Існуюць тут валейбольныя і футбольныя каманды. Савет клуба арганізоўваў у летні перыяд танцавальныя вечарыны, гасціў студэнтаў з Варшавы і рыхтаваўся да турніра грамад Гарадок — Міхалова, які адбыўся 26 верасня г.г. Кіраўніцтва дома культуры наладзіла цеснае супрацоўніцтва з народнай гафцяркай Зосяй Каспэрук, расказчыкам Станіславам Гродскім, мастаком Рамуальдам Грыкам, салісткай Любай Ярмолік і спевакамі-аматарамі Аляксандрам Ваўрэнюком і яго жонкай. Апрача таго, кіраўніцтва дома культуры і савет клуба намераны загаспадарыць пляцоўку за домам культуры: паставіць парасоны, улажыць хаднiковыя пліты і пабудаваць канцэртную мушлю.

Ужо зараз можам сцвердзіць, што міхалоўская моладзь культурней вядзе сябе ў кіно, і ў клубе, і ў бібліятэцы. А варта адзначыць, што кіраўніцтва дома культуры і шырокі маладзёжны клубны калектыў можа яшчэ многа зрабіць у напрамку культурнага развіцця асады.

*Я. Цялушэцкі*

## ГАЙНАЎКА АТРЫМАЛА НОВУЮ ПЯКАРНЮ

Старая і малапрадукцыйная пякарня ў Гайнаўцы не магла поўнасцю забяспечыць жыхароў горада хлебам. У такіх абставінах нельга было нават гаварыць аб павелічэнні асартыменту пірожных вырабаў. У перадсвяточныя дні часта не хапала хлеба, не вырашалі справы дастаўкі хлеба з Белавежы ці Нарвы. Зараз гэтакая сітуацыя радыкальна змянілася ў сувязі з перададзенай у карыстанне новай пякарняй, якую пабудаваў ВСС коштам больш 3 млн. злотых. Новая, па-сучаснаму абсталяваная пякарня можа спячы на працягу сутак 9 тон хлеба. (яц)

## ПУНКТЫ СКУПКІ МАДЭРНІЗУЮЦЦА

Улады ПЗГС у Сямяцічах многа ўвагі прысвячаюць справам мадэрнізацыі ГС-аўскіх пунктаў скупкі. Коштам 250 тысяч злотых поўнасцю змеханізаваны пункт скупкі ў Сямяцічах. Але гэта не ўсё. Многа будуецца зараз грамадскім чынам. Будуюцца перш за ўсё новыя дарогі да пунктаў скупкі, склады, пачакальні, агарожы і г.д. Між іншым, працаўнікі ГС у Баратынцы, Сямяцічах і Цеханоўцы абавязаліся выканаць грамадскі чын на суму 800 тысяч злотых у кожным паасобным ГС-е, а працаўнікі ў ГС Гарадзіска — на суму 580 тысяч злотых.

Зараз самадзейная брыгада ў ГС Цехановец робіць на ўласныя патрэбы трылінку і кравэнжнікі, якія будуць пракладзены на пляцах пунктаў скупкі. (яц)

4

вецер невялікі, а пень выпрастацца не можа. Цяпер глянь на мяне: пастухі бок асмалілі, людзі кару аскрэблі, колькі-то сукоў павыразалі? Лісты, жалуды — і тыя штогод падбіраюць: — усё, каб толькі сабе карысць мець; а ці падумалі, што стары ўжо я, пакалечаны, веку дажываю, а ніводзін жалудок мой не ўзрос... Сохну ўжо я. Каб хоць два, каб хоць год далі вы мне засілку — вадзіцы чыстай, здаровай, — можа б я вам памятку пакінуў: новае пакаленне. Прысягнуў ты, дзіцятка, — дык дабудзь жа ты мне цяпер гэткай вадзіцы, пашукай, прынясі, карэньчыкі мае бедныя падлі...

— Добра, — кажу, — дзядулька, добра, будзь спакоен: дастану, прынясу — хіба згіну!..

Бег я, змарыўся, — ужо і самому піць зажадалася. Цямнець стала, а вады як не відаць, так не відаць. Бачу, нейкая кабеціна — старэнькая, худзенькая — прыгаршчамі зямлю носіць.

— Ці не ведаеш, бабулька, дзе тут вады дастаць? — пытаю.

— Хадзі за мной, сыночак, пакажу табе цэлае возера.

Уцешыўся я. Пайшлі, па дарозе пытаю:

— Адкуль ты, бабулька, і як завешся?

— Тутэйшая, — кажа, — а завуся Праца, сынок, Праца.

Дзіўнае, думаю, прозвішча. Прыйшлі да возера, — вялікае, што вокам не сцягнеш, і хоць вада мутная, брудная, — кінуўся я піць. Хлебануў раз — што гэта? Вада не вада, хоць смак і знаны. Ага, успомніў я, як напрацуешся ды пот, цякучы па

5

брудным твары, пападзе ў рот, — от якраз гэтакі смак! Пытаю бабулькі:

— Праўда, сынку, праўда: пот. Паўнюсенькае возера людскога поту...

— А нашто ж ты зямлю прыгаршчамі носіш ды кідаеш у гэтае возера? — пытаю.

— Глыбокае яно без канца, а трэба, каб заўсёды было поўнае: дык вось, як засыплю яго зямліцай, тады і поту мала трэба будзе людзям ліць.

Здзівіўся я, але не было калі распытвацца, і пабег далей. Бег я, бег, — бачу зноў возера, — большае за першае, але вадзіца ў ім такая чыстая, што аж свеціцца. Прыпаў я, хлебануў — горкая, але такая горкая, што піць нельга! Прыйшло мне на памяць, як аднаго года апошнюю скацінку з хлева вывелі... Скацілася тады слязінка і ў рот мне папала... от якраз гэтакі смак!.. Бачу, старушка нада мной стаіць.

— Хто ты? — пытаю.

— Бяда, сынку. Бяда. Не пі, сыночку, гэтай вадзіцы, не пі: досі ты яе ўжо напіўся...

— А што ж ты тут робіш? — пытаю.

— Глянь, унь, на катлы вялікія, пад імі заўсёды агонь гарыць. Дзень і ноч наліваю я ў іх з гэтага возера поўна слёз людскіх і грэю, каб высахлі, аж пакуль усё гэта возера не высушу, аж пакуль пара ад іх не падымецца аж да неба!..

Здзівіўся я, але памчаў далей. Спатыкаю ізноў старэнькую кабеціну, — палівае яна зямлю з конаўкі.

— Дай, бабулька, напіцца, — прашу яе.

6

— Ідзі, — кажа, — да возера.

Падбягаю, — бачу: поўнае яно не вады, але віна чырвонага... Прыпаў, хлебануў... «Божа! — крыкнуў я са страху, — помню, помню гэтае віно: у губах яго было поўна, вочы ім заліты... помню яго! Але ж гэта не віно, але кроў!..»

— Праўда, — кажа старушка, стоячы нада мной, — праўда, сыночку, людская гэта кроў, і вось мушу ўсё гэта возера конаўкай вынесці і ўсю зямліцу паліць!..

— Хто ж ты? — пытаю.

— Цярпенне, — ціхенька адказала бабулька.

Без аглядкі кінуўся я ад гэтага страшэннага месца. Чую: у старане недзе бурчыць, пераліваецца, бяжыць, нібы, скажам, ручаёк жывенькай вадзіцы. Я туды шукаць, аж тут — калі бліснe, трэсне, заляскае, — здалося, увесь свет задрыжаў!

. . . . . .

Усхапіўся я, вочы праціраю, не магу да сябе прыйсці... Не чуў я, як бура найшла, як перуны сталі біць, пакуль не дабраліся да майго дзядулі, пад каторым я так моцна спаў... Працёр вочы, сон свой страшны ўспомніў, закалаціўся ўвесь, зуб на зуб не пападае... Гляджу: дзядулька мой бедненькі ляжыць ціха на баку...

З таго часу прайшло некалькі год. Ляжыць дзядуля на сваім месцы (сукі толькі паабразалі), а з-пад яго вылезлі тры, хоць яшчэ цененькія, але гладкія, роўныя дубочкі...

 

# ТРЫБУНА чытачоў

## Ці ведаеце, што...

...у Сямяціцкім павеце дзейнічаюць 222 сельскагаспадарчыя гурткі з агульнай колькасцю 5910 членаў. Сельскагаспадарчыя гурткі карыстаюцца 460 трактарамі з камплектамі падвесных машын.

...у Сямяціцкім павеце арганізацыя ЗСЛ налічвае 933 члены, згуртаваныя ў 84 гуртках. Сярод гурткоў ЗСЛ найактыўнейшымі з'яўляюцца гурткі ў Гарнове, Немірове, Літвінавічах, Косках і Осмалі. Грамадскія камітэты ЗСЛ найлепш працуюць у Дзедкавіцах, Касёрках, Мельніку, Астражанах і Клюковічах.

...у Сямяціцкім павеце членамі КГВ (гурткоў вясковых гаспадынь) з'яўляецца 3805 жанчын.

...у Сямяціцкім павеце сельскагаспадарчыя курсы закончыла 7460 сялян.

### ЭНТУЗІЯСТКІ ГРАМАДСКАГА ДЗЕЯННЯ

Гурток БГКТ у Трасцянцы актыўны і ініцыятыўны. Кіруе ім настаўніца Галена Тапалянская. Гурток супрацоўнічае з ЗМВ, КГВ і іншымі арганізацыямі. Рэгулярна аплочвае членскія складчыны. У справаздачна-выбарчым перыядзе гурток пастанавіў павялічыць свае рады да 150 членаў. Гурток арганізуе даклады, сустрэчы з цікавымі людзьмі, вечарыны і экскурсіі. У гэтай працы выдзяляюцца энергічныя энтузіясткі грамадскага дзеяння дзве Надзі: Семянюк і Астроўская (на здымку).

*Тэкст і фота В. Б.*



### У ІВАНКАХ

ГРН Трасцянка размешчана ў паўночна-заходняй частцы Гайнаўскага павета. Зямля тут слабая: V і VI клас. На тэрыторыі ГРН ёсць 4 сельскагаспадарчыя гурткі: Трасцянка, Іванкі, Белкі і Сацы. Заснаваны яны звыш 10-ці год таму назад. Адны працуюць добра, у іншых не хапае ініцыятывы. Я выбраў гурток у Іванках, які ўзначальвае Пётр Кучэўскі. Гурток гэты да 1970 года вялікай дзейнасці не праяўляў. Але калі ў 1970 годзе правялі ў вёсцы камасацыю, у праўлення вырасла ініцыятыва. Гурток загаспадарыў звыш 100 гектараў дзяржаўнага фонду зямлі і прадаў дзяржаве 67 тон жыта і 26 тон аўса. Усе члены гуртка спраўна правялі збор ураджаю, цяпер яны стараюцца, каб у пару правесці пасеў. Купілі яны 86 тон мінеральных угнаенняў.

Варта, каб за імі пайшлі іншыя гурткі і загаспадарылі зямлю, якая яшчэ ляжыць аблогам. У саміх Белках ляжыць яе каля 100 гектараў. Не маюць з яе карысці ні дзяржава, ні гаспадары. Калі гаспадары звярнуліся да павятовых улад, каб тыя дазволілі ўзяць у арэнду па некалькі гектараў аблогаў, дык гайнаўскія ўлады адказалі: калі хочаце, дык усю, на адну ўмову, а дзяліць не будзем.

Ну, дзе ж тут узяць аднаму тую зямлю. Відаць, у павеце хапае хлеба.

*М. Лук'янюк*

## Кансультацыя юрыста

ПЫТАННЕ: Пры жыцці бацька дараваў мне карову і швейную машыну. У завяшчанні бацька запісаў мне адну трэцюю частку спадчыны, не ўспамінаючы аб падараных прадметах. Ці пры аблічэнні майго ўдзелу ў спадчыне будзе ўлічвацца тое, што я атрымала ад бацькі пры яго жыцці?

АДКАЗ: Паводле спадчыннага права пры падзеле спадчыны залічаюцца да атрыманай у спадчыне маёмасці падараныя пры жыцці спадкадаўцы прадметы. Гэта адносіцца да выпадкаў, калі наследнікамі з'яўляюцца сыходныя, г. зн. дзеці, унукі, праўнукі, або муж ці жонка, а спадчыну атрымліваюць яны на аснове самога закона. Калі ж спадкадаўца пакінуў завяшчанне, у якім успамінання аб падараных прадметах няма, то прадметы гэтыя да ўдзелу ў спадчыне не залічаюцца. Гэта адносіцца і да вас.

## Беларускія кнігі

Змяшчаем працяг спіску беларускіх кніг, якія можна набыць у беластоцкай кнігарні на вуліцы Кілінскага:

Чарнышэвіч Аркадзь, «Новы дом», Мінск 1967, стар. 192, цана 2 зл. 80 гр.

У зборнік увайшлі апавяданні, напісаныя ў розныя гады. Іх тэма — узаемаадносіны людзей, праца, каханне, справы, звязаныя з перавыхаваннем чалавека. Значнае месца адводзіцца прыгажосці беларускай прыроды.

Рэкамендуем усім любіцелям беларускай прозы.

Грахоўскі Сяргей, «Тры вымярэнні», Мінск, стар. 296, цана 5 зл. 90 гр.

С. Грахоўскі — дасканалы майстар верша. Яго творчасці ўласцівы тэматычная шырыня, разнастайнасць паэтычных фарбаў і пафас высокай грамадзянскасці.

Кнігу рэкамендуем дарослым, моладзі і школьным бібліятэкам.

Гілевіч Ніл, «Перазовы», Мінск 1967, стар. 108, цана 5 зл.

Гэта кніга лірыкі папулярнага беларускага паэта Ніла Гілевіча. Аб яе змесце так піша сам паэт: «...жыццё з яго няспынным абнаўленнем чалавечых клопатаў і трывог, надзей і жаданняў, мінулае і сучаснае роднага краю, харassтво яго прастораў, памяць вайны, уражанні замежных паездак».

Зборнік рэкамендуем і дарослым і моладзі.

Кірэенка Кастусь, «Смага», Мінск 1962, стар. 78, цана 1 зл. 10 гр.

Сучасны беларускі паэт К. Кірэенка прысвяціў вершы гэтага зборніка тэме радзімы і сыноўняга абавязку перад ёй, узаемаадносінам паміж людзьмі, прыгажосці роднага краю.

Рэкамендуем усім любіцелям беларускай паэзіі.

Лойка Алег, «Сустрэчы з днём сённяшнім», Мінск 1968, стар. 170, цана 3 зл. 90 гр.

А. Лойка — паэт і навуковы працаўнік Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Кніга прадстаўляе сабой літаратуразнаўчую працу. У ёй разглядаюцца лепшыя творы сучаснай беларускай савецкай паэзіі і заканамернасці яе развіцця ў апошнім дзесяцігоддзі.

Кнігу рэкамендуем перш за ўсё настаўнікам і тым, хто цікавіцца развіццём сучаснай беларускай літаратуры.



## Сардэчныя тайны

*Дарагое Сэрцайка*

Пішу я да цябе першы раз. Уласна кажучы, мне не патрэбна парада ў гэтым выпадку, але проста я хацела б ведаць твой погляд на справу, якую я хачу тут выказаць.

У апошнюю нядзелю была я на вяселлі ў маёй сяброўкі. Калі пасля шлюбнай цырымоніі заселі ўсе госці за сталы, мне прыпала сядзець з аднаго боку з дзяўчынай, а з другога боку з хлопцам не надта мне знаёмым, хоць перад тым мяне з ім ужо пазнаёміла сяброўка, яго нарачоная. Яна сядзела з другога боку гэтага хлопца.

Пачалі «стукацца» чаркамі, піць, есці, а потым і спяваць, вядома, як на вяселлі. На жаль, я не вельмі сябе добра адчувала, была вельмі незадаволена з таго месца, дзе мне прыйшлося сядзець. Мой сусед увогуле не дбаў пра мяне. Вельмі ж ужо даглядаў сваю нарачоную, а мне нават не было каму наліць чаркі, падаць што-небудзь з яды, якая стаяла трошкі далей ад мяне. Я «абслугоўвала» сябе сама. Я разумею, што ён быў заняты сваёй нарачонай, аднак выдаецца мне, што крышку павінен быў і пра другую сваю суседку падумаць, гэта значыць, пра мяне. Праўда, я ні славечкам не сказала аб гэтым сяброўцы да сёння, аднак хацела падзяліцца з табой, Сэрцайка, хацела, каб пачыталі іншыя хлопцы, якія ў такіх выпадках вядуць сябе падобна. Ці я маю рацыю?

*Людміла*
*Сакольскі павет*

Людміла! Напэўна ты маеш рацыю, таму мы твой ліст надрукавалі ў цэласці, хай пачытаюць іншыя для таго, каб больш не рабіць такіх нятактаў, а яшчэ іншыя для перасцярогі. Дзякуем за ліст.

*Сэрцайка*

### ЗЛАДЗЕІ АПАНАВАЛІ СКУПАВА

8 верасня гэтага года ўначы з серады на чацвер ішоў дождж і быў вялікі вецер. І ў гэтую цемень да жыхаркі сяла Скупава, Насці Янушкевіч зайшоў чалавек, а як яго назваць: злодзей ці хуліган, я і сама не знаю. Выбіў акно, адчыніў зашчапку і ўлез у хату. У дрыжачай ад страху жанчыны стаў дапамінацца грошай.

Яна мела толькі 120 зл, ды і тыя схавала за пазуху. Заўважыў ён гэта, запытаў, што яна хавае. Яна кажа, што мае адно толькі грошай на хлеб. І стала прасіць, каб не забіраў. Абшукаў ён у хаце ўсе куточкі, з сундука ўсё павыкідаў на падлогу. Нічога такога не знайшоў, каб забраць з сабой. А гых 120 зл. не забраў. Толькі загадаў ёй, каб нікому нічога не гаварыла, бо як каму толькі пісне, то прыдзе, заб'е і спаліць.

Узяць гэты факт на здаровы розум. Было куды ісці, да ўдавы, якая многа год хварэе. Праўда, палучае яна некалькі сот злотых рэнты за зямлю, што аддала дзяржаве. Нічога яна больш і не мае, з гэтых грошай толькі і жыве.

У навакольных вёсках не чуваць такіх цудаў, якія творацца ў Скупаве.

На гэты вялікдзень, калі Надзя Крынская, таксама ўдава, пайшла на ўсеначну, то зладзеі адарвалі прыбоі ў дзвярах і, увайшоўшы ў хату, забралі саланіну і каўбасы. Пакінулі жанчыну на цэлае лета з постам, бо яна нідзе не заробіць: ёй каля 60 год.

А ў Нічыпарука Рыгора забралі з шопкі 2 парасят. Не гаворачы ўжо пра курэй, што гінуць з куратнікаў.

А хто ж гэтым рамяством займаецца? Невядома. Пакуль што пошукі міліцыянераў з сабакамі не даюць ніякіх вынікаў.

*Крапіўка з-пад Нараўкі*

### ЁСЦЬ КАМУ ЗАНЯЦЦА

Часта наракалі мы ў «Ніве», што гуртком БГКТ у Плёсках няма каму заняцца. У апошні час знайшлася тут добрая душа, поўнасцю адданая культурнаму развіццю вёскі. Гэта Вераніка Леанюк — сакратар бельскага аддзела БГКТ. Сказала яна мне: Зраблю ўсё, каб у Плёсках было культурна.

Яе словы пацвярджае канцэрт, які адбыўся ў Плёсках з нагоды дажынак. Рыхтаваў яго мясцовы гурток БГКТ на чале з Веранікай. Канцэрт быў вельмі ўдачны і за міла праведзены час у вясковай святліцы ўсе былі Вераніцы ўдзячны.

— Як вам, Вера, працуецца? — спытаў я ў яе.

— У вёсцы дружная моладзь, — адказала яна, — і няма вялікай праблемы, каб нешта арганізаваць. Перашкаджаюць толькі вясковыя хуліганы, якія ў час рэпетыцый стукаюць у вокны.

Веру, што знойдзецца ў Плёсках спосаб і на хуліганаў.

*Янка*

### УВАГА, ПАДПІСЧЫКІ!

У сувязі са шматлікімі пытаннямі адносна змен, якія ўвяло міністэрства сувязі ў галіне падпіскі, «Рух» паведамляе:

— Заказы на падпіску краёвага друку ад установ, рад нарадовых, арганізацый, прадпрыемстваў, кааператываў, школ, бібліятэк, чытальняў і іншых прадпрыемстваў прымаюць: у гарадах і мястэчках — аддзелы і дэлегатуры «Рух», на вёсцы — пошта.

Пастанова гэта дзейнічае ад 1 ліпеня 1971 г. Заказы, ужо прынятыя аддзеламі і дэлегатурамі «Руху», будуць рэалізаваны да канца аплочанай падпіскі.

Заказы на падпіску савецкага друку ад усіх установ і прадпрыемстваў, незалежна, дзе яны знаходзяцца (у горадзе, мястэчку, ці ў вёсцы) надалей прымаюць выключна аддзелы і дэлегатуры «Руху».



*Дарога з Семяноўкі ў Тарнопаль.*
*Фота: В. Бура.*



## КІНО

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Нараўка**
„Pogromca zwierząt" (rumuński), „Pan Dodek" (polski), 13—17.

**Нарва**
„Bokser" (polski), „Chleb i róże" (radz.), 13—17.

**Чыжы**
„Cierpienia młodego Bohaczka" (czeski), „Krajobraz po bitwie" (polski), 13—17.

**Дубічы Царкоўныя**
„Ostatni termin" (USA), „Zabawy w muzeum" (węgierski), 13—17.

**Арэшкава**
„Drugi człowiek" (polski), „Noc poślubna" (polski), 16—17.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**
„Rachunek sumienia" (polski), „Samolot odlatuje o 9-tej" (radz.), 13—17.

**Орля**
„Pułapka" (polski), „Wahadło" (USA), 13—17.

**Райск**
„Strachy zamku Spessart" (NRD), „Czarne skrzydła" (polski), 13—17.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**
„Rachunek sumienia" (polski), 12—13. „Próba terroru" (USA), 14—15. „Wezwanie" (polski), 16—17.

**Янаў**
„Unkas — Ostatni Mohikanin" (rumuński), 13—17.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Нурэц**
„Orzeł" (polski), 12—13. „Świeć moja gwiazdo" (radz.), 14—15. „Niewolnicy" (USA), 16—17.

**Мілейчыцы**
„Film z czarującą dziewczyną" (rumuński), 12—13. „Tagbuch — dziennik dr Hansa Franka" (polski), 14—15. „Niewolnicy" (USA), 16—17.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**
„Unkas — ostatni Mohikanin" (rumuński), „Przeciw Wranglowi" (radz.), 13—17.



**Ці Вы ўжо з'яўляецеся членамі БГКТ?**


**Ніва**

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO 1-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23.




 

